Год IV. Сакавік 1935 г. № 3 (39)




Ты ёси Пётръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мато. 16. 18.

БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

// ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!
Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Сакавік 1935 г. № 3 (39).

# Нядзеля 1-я Посту.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ІОАНА РАЗЬДЗЕЛ 1, 43—51, ЗАЧАЛА 5.*

43. Таго часу захацеў Ісус пайсьці ў Галілею; і знайшоў Піліпа. І сказаў яму: хадзі за Мною.

44. А Піліп быў з Віфсаіды, з гораду Андрэевага і Пятровага.

45. Знайшоў Піліп Нафанаіла і сказаў яму: мы знайшлі Ісуса сына Іосіфа, што з Назарэту, аб каторым пісаў Майсей у законе і прарокі.

46. І сказаў яму Нафанаіл: Ці-ж можа што добрае быць з Назарэту? Сказаў яму Піліп: Прыйдзі і паглядзі.

47. А Ісус убачыў Нафанаіла, як ішоў да Яго, і сказаў аб Ім: Вось запраўды Ізраільцянін, у каторым няма здрады.

48. Кажа Яму Нафанаіл: Скуль мяне знаеш? Ісус адказаў яму: Перш чым паклікаў цябе Піліп, як ты быў пад смоквай, Я цябе бачыў.

49. Адказаў яму Нафанаіл: Раббі, Ты ёсьць Сын Божы; Ты ёсьць Цар Ізраіля!

50. Адказваючы Ісус яму сказаў: Як Я табе сказаў, што бачыў цябе пад смоквай, ты верыш? Убачыш яшчэ больш, як гэта.

**51. Казаў яму так-жа: Запраўды, запраўды кажу вам: ад гэтага часу вы ўбачыце адчынянае неба і анделаў Божых, усходзячых і выходзячых на Сына Чалавечага.**

---

Першая нядзеля Вялікага Посту называецца нядзеляю або сьвятам Праваслаўя.

Установлена гэтае сьвята 842 году на памятку перамогі Хрыстовае царквы над гэрэзіяй так званых іконаборцаў, што вялі барацьбу проці паважаньня абразоў — іконаў.

Гэрэзія іконаборцаў вельмі пашыралася, дзеля асаблівай помачы Канстантынопальскіх імпэратараў. Дайшло да таго, што нават некаторыя патрыярхі ў Канстантынопалі, як Хвядот I, Антоні I і Іоан VII былі іконаборцамі. Праз сваю гэрэтычнасьць гэтыя патрыярхі з сваімі падуладнымі ня мелі лучнасьці з Рымскім Апостальскім Пасадам.

Калі-ж імпэратрыца Хвядора з патрыярхам Сьв. Мяфодыем вярнула паважаньне абразоў, дык гэрэзія іконаборцаў была пераможана, 19 лютага 842 году была ізноў навязана лучнасьць з Папай Рымскім і пастаноўлена сьняткаваць памятку перамогі праваслаўя ў першую нядзелю посту.

Што-ж мы з гэтага факту бачым? Тое, што вонкавым знакам належнасьці да праўдзівага Праваслаўя ёсьць лучнасьць або унія з Апостальскім Пасадам у Рыме. Няма праўдзівага Праваслаўя бяз лучнасьці з Наступнікам сьв. Пётры Апостала, Папай Рымскім, гэта сьведчыць, паміж іншым, і сяньняшняе сьвята, абходзіцца памятка перамогі Праваслаўя над гэрэзіяй іконаборцаў, а вонкавым знакам гэтай перамогі і навярненьня да Праваслаўя ёсьць узноўленая лучнасьць Канстантынопалю з Рымам.

А цяпер, у нашыя часы, што мы бачым? Цяпер якраз наадварот. Нязлучаным так званым праваслаўным здаецца, што тады толькі будзе захавана праўдзівае праваслаўе, калі яны будуць аддзелены ад Апостальскага Пасаду ў Рыме. Якраз так думаюць ды паступаюць, як гэрэтыкі іконаборцы. Тых-жа, каторыя, як Сьв. Хвядора і Сьв. Мяфоды, навязваюць лучнасьць з Скалою Пятроваю праз злучэньне (Сьв. Унію), называюць адступнікамі ад „праваслаўя“.

Чаму гэта так? А таму, што патрыярх Міхал Керулары і іншыя, пакідаючы Праваслаўе, захавалі за сабой назоў праваслаўных. Такім чынам выходзіць, што маюць назоў бяз зьместу, называюцца праваслаўнымі, хаця праз адступніцтва ўжо перасталі імі быць.

Прыймаючы Сьв. Унію, уніят не выракаецца праўдзівага Праваслаўя, а праваслаўя хвальшывага; не выракаецца Праваслаўя першых вякоў, а пазьнейшага, — не адыходзіць

ад Праваслаўя, перамогу якога над гэрэзіяй іконаборцаў сяньня сьвяткуем, а чураецца праваслаўя іншага, што не знаходзіцца ў лучнасьці з Апостальскім Пасадам у Рыме. Праўдзівае Праваслаўе ёсьць з Папай Рымскім, праўдзівае Праваслаўе ня розьніцца ад Кафоліцкае веры. Кафоліцкая вера і праваслаўе абазначала тое самае, каталік і праваслаўны былі аднолькава членамі Аднае Хрыстовае Царквы.

Дзеля таго, што назоў „праваслаўны“ ў нашыя часы ў жыцьці штодзенным абазначае хрысьціяніна, што жыве ня ў лучнасьці з Наступнікам Сьв. Пётры ў Рыме, ня прызнае Папы Рымскага сваім Вярхоўным Пастырам і ня моліцца за яго, дык дзеля таго тыя, што пакінулі такое „праваслаўе“, у якім былі іконаборцы, а прыняўшы Праваслаўе Сьв. Мяфодыя, называюць сябе каталікамі або уніятамі, каб адрозьніцца ад „праваслаўных“ хвальшывых. Дзеля таго, што уніяты затрымліваюць усходні абрад, каб адрозьніцца ад каталікоў лацінскага абраду, называюцца яны грэкакаталікамі.

Хто быў з нязлучаных праваслаўных у уніяцкай царкве і бачыў, як там адпраўляецца Сьв. Літургія, той кажа:— „Усё так, як у нас, няма ніякай розьніцы.“

Так, вонкава няма розьніцы, абрад і ўсё вонкавае жыцьцё, як сьвяты і пасты, аднолькавы, а ў запраўднасьці— ня ўсё роўна.

Кожны мусіць, аднак-жа, верыць так, як Госпад Наш Ісус Хрыстос хацеў, каб верылі. Ён залажыў адну веру і яе пільнаваць ды чыстату яе сьцерагчы наказаў Сьв. Пётры і яго наступнікам. Вось і кожны хрысьціянін павінен верыць так, як наступнікі Сьв. Пётры, Папы Рымскія, вучаць.

Хто з нас, за ласкай Божай, пазнаў праўдзівую веру і сьведама, дабравольна прыняў Унію, няхай моцна, цьвёрда трымаецца Яе. Не выракайся, Дарагі Браце, Сьв. Уніі ніколі, асабліва перад уладай. Калі ў цябе спытаюць, якой ты веры, не кажы, кім быў, а якім **цяпер** стаў, скажы:

— „Я веры грэка-каталіцкае“.

Здараецца і так: прыходзіць прыхаджанін уніяцкага прыходу ў воласьць, каб вымальдавацца.

— Якой веры?— пытаецца ў яго памоцнік пісара.

— Праваслаўны, — адказвае той.

— А чаму ў тваіх паперах значыцца: грэка-каталік?— пытаецца памоцнік пісара.

— Дык я-ж уніят, — адказвае прыхаджанін.

— Што ж ты, братку, круціш, адзін раз так кажаш, а другі — інакш, мушу перапісваць паперу, — сказаў сярдзіта памоцнік пісара.

Пэўне, што трэба аднаго трымацца, інакш будзе блутаніна.

Некаторыя ня хочуць дзеля таго называцца грэка каталікамі, бо гэта, кажуць, польская вера.

Каталіцтва, гэта ня польская вера, а сусьветная, для ўсіх народаў; польскай веры няма. Гэтак сама, як вераць палякі, вераць і мільёны людзей з іншых народаў; толькі цемната можа называць каталіцкую веру польскаю вераю. Здараецца сустракаць людзей, каторым ніякім чынам ня можна гэту так выразную праўду вытлумачыць. Што-ж гэта абазначае? Абазначае тое, што вельмі слабая галава, мала ў такой ґалаве розуму, каторая ня можа так яснае праўды зразумець.

Кожны, хто прыймае Сьв. Унію, хай ведае, што выраказцца хвальшывага сучаснага праваслаўя, а прыймае тое Праваслаўе, перамогу якога над гэрэзіяй іконаборцаў сяньня сьвяткуем.

Прыймаючы Сьв. Унію, кожны хай ведае, што выпаўняе волю Ісуса Хрыста. Збаўца наш перад сваёй мукай выявіў пажаданьне свайго сэрца ў сваёй малітве да Бога Айца: **„Ойча Сьвяты, захавай іх у імя Тваё, тых, якіх Ты Мне даў, каб яны былі адно, як і Мы“**. (Io. 17, 11). Калі мы будзем выпаўняць волю Госпада Нашага на зямлі, заслужым праз гэта нагароду вечную ў небе. Амін.

*а. Антоні.*

---

# Папа Піус XI.

*(Да 13-тых угодкаў понтыфікату).*

Справядліва дзівячыся з мудрае прадбачлівасьці Папы Піуса XI, з Яго бязустаннае працы над задачамі бягучага мамэнту, з Яго далёкасяжнай палітыкі і невычарпальнае энэргіі, мы ясна можам уявіць сабе, што галоўным мотарам усіх Яго пачынаньняў ёсьць глыбокае разуменьне Ім свайго пасланьніцтва, як Найвышэйшага Пастыра, Вартаўніка Царквы Хрыстовае.

А дзеля таго, што першым абавязкам апостальскага пасланьніцтва ёсьць руплівасьць аб расшырэньні ў душах панаваньня Царквы Хрыстовае, дык і Папа Піус XI зьяўляецца, перш за ўсё, Папаю Місіяў і Папаю Каталіцкае Акцыі.

Як дзейны чалавек, Папа Піус XI не абмяжоўваецца толькі выдаваньнем энцыклікаў, а ілюструе сваю працу жывымі прыкладамі і мэтазгоднымі распараджэньнямі. Як мудры пэдагог, у 1925 годзе Ён ладзіць у ватыканскіх садох павучальную місійную выстаўку, дзе масы пілігрымаў,

што прыбываюць у Вечны Горад, могуць бачыць, у якіх варунках і як працуюць каталіцкія місіянэры, а таксама і што яны ўжо зрабілі для Царквы і цывілізацыі. А калі канчаецца Юбілейны Год, выстаўка гэта пераносіцца ў Лятэранскі палац, каб далей служыць навуцы і ўмацаваньню сэрцаў.

Цэнячы вялікае значэньне прэсы, Папа падтрымлівае утварэньне вядомай цяпер на ўсім сьвеце агенцыі „Fides“, якая ўвесь час дае нам весткі аб працы ў місійных краі-



нах. Апрача таго Папа разьвівае і раней ужо істнаваўшыя місійныя выданьні.

Найвышэйшыя аднак заслугі Папы Піуса XI — гэта стварэньне кадраў мясцовага духавенства. Гэтак у 1926 годзе Піус XI высьвячае першых шасьцёх кітайскіх япіскапаў, у чародным годзе — першага японскага япіскапа, крыху пазьней — першага япіскапа эфіопскага абраду і, нарэшце, у 1933 г. — першага анаміцкага япіскапа. Разьвінутая гэтак каталіцкая акцыя дае нязвычайныя рэзультаты: ужо ў 1931 г.

адна архіепархія, 9 вікарыятаў і 5 апостальскіх прэфэктураў знаходзіцца выключна ў адміністрацыі мясцовага духавенства. У тым самым часе ў Азіі ўжо істнуе 2265 большых сэмінарыяў, у Афрыцы 420 гэткіх-жа самых сэмінарыяў, 135— у Амэрыцы і 24 — на астравох Акеаніі. Трэба яшчэ зазначыць, што навуковы ровень у гэтых сэмінарыях увесь час падвышаецца, таму што Папа Піус XI сам вялікі паважальнік навукі ня толькі рэлігійнае, але і сьвецкае. Яму перш за ўсё належыць падзяка з боку туземцаў за мэдычную адукацыю місіянэраў.

За ўсё гэта Папа Піус XI карыстаецца вялікаю папулярнасьцю ня толькі сярод хрысьціян у місійных краёх, але і сярод паганцаў, аб чым сьведчаць нязьлічаныя дары, перадаваныя затым у папскія музэі.

Дарэмнымі аднак-жа былі-б нават найбольшыя натугі геройскіх місіянэраў, якія набываюць, коштам вялікай ахвярнасьці, што раз дык больш душаў для Царквы, каб адначасна не рабілася ўгрунтоўваньня на Хрыстовай навуцы ўсяго жыцьця, як адзінак, так і цэлых грамадзянстваў. Як гэта Папы неаднакроць выясьнялі, нельга быць хрысьціянінам толькі для сябе самога, а наадварот: трэба, каб ня толькі духоўнік, а кожны каталік быў апосталам, каб усе верныя былі адзінствам, праўдзіваю Хрыстоваю Царквою. Гэткае супольнае апостальства ўсіх бяз вынятку каталікоў складае Каталіцкую Акцыю ў найшырэйшым разуменьні гэтага слова. У гэтым сэнсе Папе Піусу XI, гэтак высока разьвіўшаму пагляды сваіх папярэднікаў — Піуса X, Лявона XIII і Бэнэдыкта XV, належыцъ пачэсны тытул „Папы Каталіцкае Акцыі.“

І тут Папа Піус XI не абмяжоўваецца толькі выдаваньнем загадаў і дапаўняньнем іх практычнымі радамі, а пранікае глыбей, жадаючы аздаравіць заражаныя матар‘ялізмам душы грамадзянства. Дзьве дарогі выбірае да гэтае мэты: адну — догматычную і другую — соцыялёгічную.

У 1928 годзе Піус XI выдае энцыкліку „Miserentissimus Redemptor,“ у якой аднаўляе навуку аб адкупленьні; у энцыкліцы „Mens nostra“ паказвае на абавязак пашырэньня духоўных практыкаў; у энцыкліцы „Casti connubii“ прыпамінае навуку Царквы аб хрысьціянскім малжэнстве. Дае падробныя выясьненьні аб кульце Найсьвяц. Сэрца Ісусавага і Хрыста-Цара, а таксама аб паважаньні Прасьвятой Дзевы.

Як і ўсе Папы, Піус XI асуджвае барацьбу клясаў і абвяшчае, што правы і абавязкі працадаўцаў у адносінах да работнікаў найлепш удасца пагадзіць з правамі і абавязкамі работнікаў, калі адносіны паміж гэтымі клясамі разьвівацца будуць у кірунку, паказаным Царквою. Затым у энцыкліцы „Quadragesimo anno“ Піус XI рашуча вычорквае ўсякія імкненьні да грамадзкіх рэформаў шляхам рэ-

валюцыяў і ў аснову лепшага будучага ладу кладзе грамадзянства, абапёртае на хрысьціянскай рэлігіі і на запаведзі любові да бліжніх, што толькі і можа прышчапіць чалавецтву ідэю аб справядлівасьці і аб хрысьціянскім міры.

Адным з галоўных фактаў часу панаваньня Папы Піуса XI-га, высока паказальных і ў кожным выпадку прыкаваўшых да сябе ўвагу шырокіх масаў, трэба лічыць Лятэранскае паразуменьне 1929 году. Паразуменьне гэтае, закончыўшае доўгалетні, трываўшы ад 1870 году, пэрыяд аднолькава няпрыемны, як для Папства, так і для Італьянскага каралеўства, было зроблена паміж Папаю Піусам XI і каралём Віктарам Эмануілам III і падпісана кардыналам Гаспарры і Мусоліні. Дзякуючы трактату паміж Папаю і каралём, адбыліся вялікія зьмены ў палітычным палажэньні Ватыкану. Трактатам гэтым Італія абвясьціла адзінаю дзяржаўнаю вераю рымска-каталіцкую рэлігію, прызнала сувэрэннасьць Сьв. Сталіцы ў межах міжнародных адносін, як неадлучны атрыбут Яе агульначалавечае місіі і апостальскага прызваньня. Зацьверджана бясспрэчнае права папскае ўласнасьці на Ватыкан, выключная і абсолютная ўлада, а таксама сувэрэнная юрысдыкцыя Папы над гэтай тэрыторыяй. Асоба Найвышэйшага Пастыра прызнана сьвяшчэннаю і нечапальнаю, а кардыналы зраўняны ў сваіх правох з князямі крыві.

Побач з гэтымі аснаўнымі пастановамі, Лятэранскі трактат меў у сабе цэлы рад артыкулаў, што дакладна рэгулююць пытаньні палітычныя, эканамічныя і фінансавыя, пацьвярдзіў азначаную ў сваіх граніцах Царкоўную дзяржаву і далучыў да яе шмат якія сьвятыні, палацы ды іншыя інстытуцыі ў Рыме і па-за Рымам, надаючы ім экстэрыторыяльны характар і забесьпячаючы іх ад экспрапрыяцыі. Пазьнейшы конкордат расшырыў, апрача гэтага, ватыканскі горад і вярнуў яму базылікі ў Ассыжы, Падуі і Лёрэце.

Нязвычайнае значэньне Лятэранскі трактат мае яшчэ і таму, што праняты ён духам прымірэньня і ўзаемнае любові, да чаго імкнецца ўся палітыка Піуса XI, Які ў энцыкліцы „Quadragecimo anno“ паказвае, як павінна быць арганізована грамадзкае жыцьцё.

Як Папа Піус XI разумее праўдзівы мір, аб гэтым сьведчаць Яго словы, сказаныя вядомаму каталіцкаму пісьменьніку: „Не пацыфізму трэба служыць, а міру. Мы ня маем даверу да словаў, што канчаюцца на „ізм.“

Мір, па думцы Хрыстовага Намесьніка, ёсьць рэзультатам любові. Пасьля вайны народы не знайшлі яшчэ праўдзівага міру, а ненавісьць выглядае зусюль — і з адносін і з газэтаў. Лічачы за свой галоўны доўг пропаведзь міру, Папа шле свае адозвы да ўсіх, бяз вынятку, народаў.

Прапаведваньнем асноваў хрысьціянскае рэлігіі не абмяжоўваецца палітычная роля Ватыкану. Неабходна пільнаваць, каб асновы гэтыя разьвіваліся ў жыцьці народаў, каб розныя ўрады далі поўную свабоду разьвіцьцю Царквы і яе працы. У гэтым сэнсе понтыфікат Папы Піуса XI натуе цэлы рад паважных дасягненьняў. Зараз-жа пасьля свайго выбару сьв. Айцец загадаў навязаць перагаворы з Латвіяй, якія, праз кароткі час, закончыліся конкордатам 30 траўня 1922 году. Цераз 2 гады нунцы Пачэльлі падпісаў у Мюнхэне конкордат з Баварыяй. У 1925 годзе падпісаны гэткага самага характару дагавор з Польшчаю. У верасьні 1927 году сьледам за Польшчаю пайшла Літва, а 2-га лютага 1928 году Чэхаславакія падпісала „modus vevendi" з Апостальскаю Сталіцаю. Хутка пасьля гэтага шчасьліва закончыліся перагаворы з Партугаліяй трактатамі з сакавіка 1928 году і 29 чэрвеня 1929 году. 7-га ліпня 1929 году ўвайшоў у жыцьцё конкордат з Румыніяй, а 13 жніўня таго самага году падпісана ўрачыстая конвэнцыя з Прусіяй. За Прусіяй пайшла Бадэнія, 5 чэрвеня 1933 г. зрабіла тое самае Аўстрыя і, нарэшце, 20 ліпня 1933 г. падпісала конкордат Нямеччына. У Чэхаславакіі падходзяць да канца перагаворы аб новым „modus vivendi." Неаканчальна яшчэ азначаны адносіны з Літвою, а крывавыя рэлігійныя прасьледаваньні ў Мэксыцы і Савецкай Расеі ўсё яшчэ зьяўляюцца балючаю незагоенаю ранаю.

Высокае значэньне Ватыкану, як вогнішча культуры і цывілізацыі, рашуча не дацэньваецца ўсімі, нават каталікамі. А тым часам трэба зьвярнуць увагу на тое, што ў гэтай маленечкай дзяржаве ёсьць, апрача грэгорыянскага унівэрсытэту з 5-ма факультэтамі, яшчэ 3 навуковыя інстытуты, 8 інстытутаў, залежных беспасярэдня ад самога Папы, 12 акадэміяў, 7 сэмінарыяў, 29 калегіяў розных народнасьцяў і 29 калегіяў пад загадам розных манашаскіх конгрэгацыяў. Пры гэтым трэба зазначыць, што трудна было-б уявіць сабе больш адпаведнага навуковым задачам у гэтай галіне гаспадара, як сяньняшні сьв. Айцец Піус XI, Які мае за сабою значную колькасьць навуковых і літэратурных твораў, напісаных Ім яшчэ тады, калі быў Ён прэфэктам бібліятэкі „Ambrosianum." Выдатная індывідуальнасьць Піуса XI і унівэрсальнасьць Яго веды сьведчыцца атрыманымі Ім дактаратамі тэолёгіі, права і філёзофіі.

Папа Піус XI цікавіцца кожнаю навуковаю галінаю, будзь гэта астраномія, матэматыка, хімія ці фізыка. Дзякуючы яму значна палепшана ватыканская астранамічная обсэрваторыя; з 1931 году Папа Піус XI ўжо мае ўласную тэлефонную сетку; у 1933 годзе Ён цікавіцца вадаправоднымі работамі ў Ватыкане і асабіста аглядае спробу штучнага дажджу.

Ня меншыя заслугі Піуса XI і ў мастацтве. Ватыканская Пінакотэка ўпрыгожана цудоўнымі колекцыямі абразоў пэндзаля Рафаэля, Тыцыяна, Леонардо да Вінчы ды іншых вялікіх мастакоў.

У галіне мастацтва трэба яшчэ ад'значыць руплівае падтрымліваньне Папаю мясцовай народнай творчасьці ў місійных краёх. Прапаганда мастацтва дала ўжо свае рэзультаты сярод кітайцаў, якія пачынаюць сур'ёзна цікавіцца каталіцтвам.

Піус XI аказваецца таксама вялікім знаўцам музыкі і выказвае пагляд, што асновы праўдзівага мастацтва застаюцца непарушальнымі, што царкоўная музыка павінна служыць шчырым патрэбам культу і каталіцкае Літургіі, што яна павінна ўхіляцца ад усяго, што зьмешавала-б яе з музыкаю сьвецкаю, што, наадварот, яна павінна чэрпаць са скарбаў Царквы новае жыцьцё і што з сучаснае музыкі можна браць толькі тое, што шчыра служыць мастацтву, а не хапацца за навінкі, мастацкі бок якіх вельмі слабы.

Гэткіх самых паглядаў трымаецца Піус XI і на кінематограф, прызнаючы яго важнае прапагандное значэньне і асуджваючы фільмы неморальнага зьместу.

Аб філёзофіі Піус XI выказваецца, што яна мае важнае выхаваўчае значэньне для практычнага жыцьця, калі толькі філёзофію правільна разумець і разумна датарноўваць, і што практычнае жыцьцё павінна асьвятляцца хоцьбы крышкамі філёзофскае думкі.

Дык цудоўная і высока-драматычная двухтысячная гісторыя, пісаная пальпам Правідзеньня на пяскох Кесарыі, пад стрэхамі базылікаў, пад скляпеньнямі готыцкіх катэдраў, аж да дзён нашых, калі пад Пятровым купалам зіхаціць электрычнасьць, а цягнік праяжджае Città del Vaticano.

Бо, як сказаў адзін вядомы пісьменьнік: ,,Міне Нэрон, як мінае віхар, бура, вайна або мор,'' а прад аўтарамі Ватыкану і Лятэрану адпраўляецца тая самая літургія, што і ў катакомбах, і гэткі самы — за грахі сьвету — ахвяроўвае яе белы старац, процістаўляючыся дужым, даючы апірышча слабым, пратэстуючы проці гвалтаў, стрымліваючы заваёўнікаў, багаслаўляючы мір, спраціўляючыся ўплывам ,,веку,'' злучаючы ў сабе паранейшаму ,мудрасьць вужакі'' з ,,прастатой галубіцы.''

*Д-р К. М. Мораўскі.*



# Пісьмы з Далёкага Ўсходу.

III.

Вельмі мне сумна на душы: ностальгія, каторая мела час прытупіцца, ізноў ад'жывае (гэта — туга па бацькаўшчыне). Гэта ня дзіва, чаму туга ад'жывае асабліва сільна пад вясну? Мусіць і ў чалавека ад'жываюць на вясну падобныя інстынкты, як і ў пералётных птушак? Родныя месцы — Альшаны, Друя, Вільня (асабліва Вільня!) — і сьняцца, і помняцца, і жыць не даюць. Але...

Работа наша ў Усходнім абрадзе, паміж Расейцамі, ідзе вельмі памалу. Чаму? Ці таму, што мы тут — беларусы і ліцьвіны? Не, мусі ня тое. Былі ў гэтай рабоце ўжо і расейцы, а рэзультат ня быў лепшы, часам нават горшы. Дык дзе-ж прычына? Ёсьць такія людзі (стыдна сказаць, — нават каталікі!), каторыя ахвотна паўтараюць закід, што так званая „Унія" ня мае будучыні, што яна „толькі пераходная ступень" да лацінства і г. д. Такіх і яшчэ болей дурных закідаў бесканечна многа. Такімі закідамі і тут, у Манджурыі, апэруе праваслаўнае духавенства; некаторыя з іх гавораць зусім шчыра, бо самі аб гэтым праўды ня знаюць, ды нарэшце — аб праўдзе ня думаюць і яе пазнаць ня турбуюцца. Аб такіх мусім паўтарыць словы Госпадавы: „*Отче! отпусти имъ: не вѣдятъ бо, что творятъ*" (Лука 23,34).

Прычыны нашае маруднасьці розныя: і псыхолёгічныя, і гістарычныя, і матар'яльныя, і шмат іншых. **Слабавольнасьць** расейцаў — вось найбольшая перашкода ў нашай рабоце! А прытым, які матар'ял пападае ў нашу школу? Значная часьць дзяцей — гэта дзеці вуліцы, або поўныя сіроты, або пакіненыя нягоднымі бацькамі. Такіх трэба перш-на-перш вылечыць ад каросты, лішаёў і ўсякай негадзі фізычнай, а так-жа духовай, — як праклёны, зладзейства і др. Пасьля трэба іх сьпешна давучваць і раўняць да адпаведнай клясы.

Другая часьць дзяцей — дзеці разьбітых сем'яў, ці разьведзеных бацькоў. Гэтыя бываюць горш сапсованыя, чымсь той матар'ял з вуліцы. Усё няшчасьце ў гэтых ганебных разводах. Разводы ня маюць ніякай абасновы ні у Сьв. Пісаньні, ні ў традыцыі царкоўнай, ні ў царкоўнай практыцы. Праваслаўная Царква, каторая кіруецца тэорэтычна Саборамі Усеагульнымі, у практыцы жыве старымі абычаямі, каторыя тлумачыць сабе кожны, як яму здаецца; асабліва гэта ярка зарысавалася пасьля вайны. І разводы да вайны даваліся рэдка і то толькі вялікім, або багатым гэтага сьвету. Прычыны да разводу таксама падбіраліся большыя, дык праваслаўны народ наагул жыў у неразрыў-

ным жанімстве. А цяпер проста няма ніякага ўстрыманьня: абы крыху грошай, дык і развод гатовы! Аб прычынах доўга думаць ня трэба — хопіць абы якой. Вось-жа ня дзіва, што дзеці зьяўляюцца першай ахвярай разводу: бацькі ўзаемна бунтуюць дзяцей проціў сябе, адбіраюць дзяцей або адкідаюць адзін аднаму. Вось пісьмо аднаго з нашых хлопчыкаў: „*Мама я живу въ Лицее св. Николая. Мне скучно без тебя. Папа хочетъ жениться на другой, а я скучаю без тебя. 5 февр. 1934 г.*" Хлапчаняці 9 гадоў, вучыцца ў прыгатаваўчай клясе. І забыўся, ці не дагадаўся, што ўжо 1935 год...

Аднак і такія дзеці маюць **грунт добры** і нават на такім грунце, спачатку вельмі няўдзячным, праца аплачваецца. Добрае зярнятка часта разрастаецца ў буйны колас: ёсьць хлопчыкі шчырыя і набожныя. Што з іх у далейшым вырасьце, Бог ведае. Трэба падмацняць нашу працу малітвай набожных душаў там, у нашым краі. Ёсьць-жа там, на Беларусі, многа набожных манашак, каторым трэба паручаць справу місіяў. Малітва зьяўляецца такім рашучым аружжам, што ёй не перашкодзіць адлежнасьць дзесьцёх тысяч вёрст.

Апрача перашкоды выхаваньня, а нават з гэтай самай перашкоды, расьце другая — страшэнная слабавольнасьць пасьляваеннага пакаленьня. Людзям, узгадаваным пакаталіцку, ня месьціцца ў галаве, як можа чалавек са „спакойным сумленьнем" тварыць вялікае зло і лічыць сябе прытым добрым чалавекам і акуратным праваслаўным?! А гэта тут агульна прынялося. Такі „праваслаўны" практычна не глядзіць ніякага посту, ня ўмее адрозьніць грахоў цяжкіх ад малых, жыве ў разводзе, або і без разводу, з чужой жонкай, царкоўных загадаў ня знае... а прытым каталікоў лічыць гэрэтыкамі, а сябе праваслаўным. Ня знаюць дыспэнсы, г. зн. царкоўнага звальненьня: ад царкоўных загадаў кожны звальняе сам сябе, калі яму падабаецца. Вось, напрыклад, у практыцы вячэрняя суботняя служба лічыцца важнейшай, як літургія, хоць вядома, што на „*всенощную*" складаецца звычайнае набажэнства, а няма ахвяры! А літургія ёсьць ахвярай Сына Божага Богу Айцу.

Дык вось якая наша праца! У некаторым значэньні нават цяжэйшая, як паміж кітайцамі, каторых трэба хрысьціць. Тут трэба **адбудоўваць асновы**, а ведама, што лягчэй новае строіць, як перарабляць папсованае.

І наагул, работа місійная і на іншых пляцоўках, ня йдзе так лёгка, як каму гэта здаецца. Ёсьць нават прыслоўе, што місія, не палітая крывёю, агулам не ўдаецца. Я недзе калісьці чытаў, што ў паўночнай Афрыцы 14 місіянэраў у працягу 14-цёх гадоў навярнулі 14 мусульманаў. Дык якім правам вымагаецца ад нас значнага рэзультату? Рэзультат

Богу ведамы, а мы павінны казаць: „Мы слугі безкарысныя, бо мы зрабілі тое, што былі павінны зрабіць“ (Лука 17,10). Да таго трэба заўважыць, што тое, што сотні гадоў псавалася, ня можа быць раптам папраўлена. Камень спусьціць з гары лягчэй, як ускаціць на гару. А пыха людзкая, а слабасьці, забабоны і ўсё другое!

Харбін, 22.IX.1934.

В. А.

---

# Наш адказ.

Гэтым разам маю адказаць ня нашым ворагам, але нашым даражэнькім братом беларусам.

Нядаўна ў адной з беларускіх часопісяў, якія выходзяць у Вільні (назову часопісі, дзеля важнае прычыны, не ўспамінаю), была надрукована несправядлівая напасьць на некаторых уніяцкіх дзеячоў і таксама на часопісь „Да Злучэньня“.

Прачытаўшы гэту напасьць, адзін з уніяцкіх сьвяшчэньнікаў, чужынец, прыязна настроены да беларусаў, сказаў:

—„Дзіўныя гэтыя беларусы і неразумныя! Мала маюць шчырых прыяцялёў ды працаўнікоў і тых імкнуцца зьнеахвоціць, адбіць ад працы.“

Такі пагляд на гэту справу маюць чужынцы. Для мяне-ж, як для беларуса, гэта зьявішча ня дзіўнае, а вельмі сумнае. Сумнае дзеля таго, што нас — беларусаў, што маем **адвагу** ў такіх няспрыяючых абставінах прызнавацца за беларусаў і **паводле магчымасьцяў** штосьці рабіць, ня так многа. З усіх бакоў абкружаныя мы людзьмі, каторыя стараюцца спыніць у зародку нашу працу. Беларускай інтэлігенцыі толькі жменька і гэтая жменька людзей, замест таго, каб сабе ўзаемна памагаць, самі сабе шкодзяць, сабе перашкаджаюць у працы, самі сабе парабіліся ворагамі.

Чытаючы беларускія газэты, беларус можа вырабіць сабе пагляд, што няма на сьвеце горшых людзей, як Кс. Станкевіч, Кс. Гадлеўскі, п. Астроўскі, Луцкевіч і інш.

Ці гэта ў запраўднасьці так?

Дзеля чаго беларусы сваіх дзеячоў ачарняюць? Розныя могуць быць перакана624ньні. Можна не згаджацца з паглядамі, але трэба шанаваць людзей.

Ня хочучы разьвіваць варожасьці, не жадаючы сябе нават бараніць, спытаюся толькі пісакаў і друкароў напасьці:

— Дзеля чаго нападаеце, ці мала маем ворагаў?

*Злучэнец.*

---

# З жыцьця бальшавіцкае моладзі.

Да якога няшчасьця можа давясьці чалавека бязбожнае ўзгадаваньне відаць на бальшавіцкай моладзі.

У апошнім нумары францускай часопісі „La vie intellectuelle“ пішацца, што ў бальшавіцкай моладзі вельмі часта здараюцца самагубствы. Самагубцы пакідаюць запіскі, ў якіх выказваюць прычыны самагубства. Вось некаторыя з іх для прыкладу:

„Жыцьцё так зрабілася цяжкім, што няма сілы больш вытрываць.“ — „Усё кругом страшнае. Кідаюся ў ваду, каб мяне зьелі рыбы і нічога ад мяне не засталося“.

Вось страшэннае здарэньне: Шэсьць маладых, поўных жыцьця ды красы, дзяўчат павесіліся на адным і тым самым дрэве. Пакінулі яны разьвітальнае пісьмо, у якім пішуць: „Ня можам больш вытрываць... Усё навокал няцікавае... Мы задыхаемся“.

Прыклады гэтыя вымоўна гавораць, якое шчасьце могуць даць ды даюць бальшавікі.

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Ковель.** Іордан адбыўся сёлета ў уніяцкім прыходзе ў Ковелі вельмі ўрачыста. На пасьвячэньні вады на рэчцы было каля тысячы людзей. Праўда, шмат было не з набожнасьці, але толькі з цікавасьці. Праваслаўныя прыйшлі пасьвячаць потым, калі ўжо была пасьвячана і калі уніятаў ужо ня было. Праз увесь час пяяў вельмі прыгожа уніяцкі хор. Сьвяшчэньнікаў было 2. Уніяцкі прыход у Ковелі знаходзіцца цяпер у цяжкіх абставінах, але дзякуючы самаахвярнай працы Айцоў Рэдэмпторыстаў разьвіваецца добра.

**Луцк.** Газэта „Wołyń“ № 7 падае вестку, што п. пасол І. Паплаўскі старшыня Валынскае Ваяв. Рады Беспартыйнага Блёку Супр. з Урадам, назначыў мясцовых і валасных старшыняў Б.Б.; у сьпіску бачым паміж іншымі чатырох ксяндзоў: Кс. Дзекан Ст. Вароніч ў Млынове, Кс. М. Бродзецкі ў Варковічах, Кс. Др. В. Воробіш ў Ракітне і Кс. Ф. Топольніцкі ў Клесове.

**Дубно.** Па ўсім сьвеце ў лютым урачыста сьвяткаваліся 13-тыя ўгодкі каранацыі Піуса XI Папы Рымскага. Папская Духоўная Сэмінарыя ўгодкі гэтыя, падобна, як і ў прошлыя

гады, сьвяткавала вельмі ўрачыста, набажэнствам і акадэміяй. Акадэмія ў гэтым годзе, дзякуючы клопатам а. Розэмана, выпала вельмі ўрачыста і багата. Гасьцей было поўна. Адносіны да унійнае працы дубненскіх палякоў і ўлады добрыя, дай Бог, каб усюды такія былі.

**Альбэртын.** На Стрэценьне адбылася асаблівая ўрачыстасьць ў альбэртынскім манастыры: Пав. а. М. Высокінскі злажыў апошнія ўрачыстыя манашаскія шлюбы. Прыймаў шлюбы а. Пратаігумен А. Дуброўскі. Дарагому і В. Паважанаму а. Настаяцелю М. Высокінскаму Рэдакцыя „Да Злучэньня" складае найлепшыя пажаданьні шчасьлівага манашага жыцьця, ды вялікага місійнага паводжаньня на „Многія Леты".

**Вільня.** Сястра Ксеня Карповіч Міс Найсьв. С. І адбыла навіцыят і 14 лютага злажыла першыя манашыя шлюбы. Сястру Ксеню добра знае Альбэртын, бо рабіла яна там шмат добра і для царквы і для альбэртынскага прыходу. Кожны альбэртынец добра знаў і шанаваў Надзежду Фёдараўну (цяпер Сястра Ксеня) і памяць аб ёй не загінула. Няхай Госпад Бог багаславіць Пав. Сястры Ксені ў яе місійнай працы на „Многія Леты".

**Варшава.** Яго Праасьвяшчэнства Протоархімандрыт (Генэрал) Айцоў Езуітаў а. Уладзімір Ледахоўскі назначыў В. Пав. Айца Ст. Сопуха Т. І. Архімандрытам (Провінцыялам) Варшаўскае Провінцыі Айцоў Езуітаў, на месца вельмі заслужанага і паважанага Айца С. Махніцкага. В. Пав. Айцец Сопух гэта ўжо другі раз займае провінцыяльскі пасад. Ён найбольш працаваў над заснаваньнем Усходняе Місіі і пасьля бараніў яе ў Польшчы. Гэта-ж Усходняя Місія аа. Езуітаў залежыць ад Варшаўскага а. Провінцыяла.
Рэдакцыя „Да Злучэньня" шчыра жадае ад усяго сэрца Новаму Провінцыялу багаслаўленьня ў працы на „Многія Леты".

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Рым.** Б. кароль Гішпаніі Альфонс XIII у часе сваей бытнасьці ў Рыме пажадаў пазнаць усходні абрад. Дзеля таго папрасіў Рэктара Рускае Калегіі а. Піліпа дэ-Рэжыс, каб адправіў Сьв. Літургію ў царкве Сьв. Антонія, на якую прыбыў сам з сынам і 2 дочкамі. У часе Сьв. Літургіі прынялі дастойныя госьці Сьв. Прычасьце, паводле нашага ўсходняга абраду.

**Бэрлін. Канцлер Гітлер у нунцыя.** Вялікае ўражаньне выклікала ў нямецкіх каталіцкіх кругох вестка аб прысутнасьці канцлера Гітлера і прэм'ера Гэрынга на банкеце, ла-

джаным нунцыем монсіньёрам Орсэні з прычыны 13-х угодкаў каранацыі Папы Піуса XI-га. У візыце гэтым бачаць сувязь з будучымі перагаворамі па пытаньню аб выпаўненьні конкордату. Пры гэтым зьвяртаюць увагу на тое, што прэм'ер Гэрынг, ня гледзячы на забарону сабраньняў каталіцкіх саюзаў, пазволіў зрабіць 17-га лютага с. г. ў бэрлінскім спартовым палацы вялікую маніфэстацыю каталіцкіх саюзаў і арганізацыяў у чэсьць Папы.

**Масква. Саветы лічаць, што вайна будзе.** У палове лютага с. г. ў Маскве адбыўся варты асаблівае ўвагі зьезд прадстаўнікоў сколектывізаваных гаспадарак. Зьезд гэты меў значэньне ня меншае за скончаны раней крыху ўсесаюзны 7 мы зьезд саветаў. Задачаю зьезду гаспадарскіх колектываў было, — цераз пасярэдніцтва 2000 дэлегатаў, якія вярнуліся ў свае гарады і вёскі, — псыхолёгічна падрыхтаваць край да вайны, якую маскоўскія кіраўнікі лічаць, як відаць, няўхільнаю.

Паседжаньне зьезду 14 лютага адбылося цалком пад лёзунгам аб'яднаньня гарадоў і вёсак дзеля няўхільнае барацьбы з „сіламі сусьветнага фашызму“. Усе прамовы гаварыліся на тэму вайны; усе аратары запэўнялі, у якнайвастрэйшай форме, што Саветы дадуць раду ворагам і ня ўступяць „ані пядзі сьвятое зямлі свае бацькаўшчыны“. Нават гэткі вядомы аратар, як галоўны рэдактар „Известий“ Мікалай Бухарын, які з увагі на свой урадавы тытул павінен быў-бы выказаць болей устрыманасьці, трымаўся якнаймацней таго-ж шаблёну, зусім выразна прадыктованага зьверху. Настрою зьезду нельга назваць іначай, як ваенным псыхозам.

Кідаецца ў вочы, што вялізарная большасьць дэлегатаў на зьезд, урадова прызнаных за «найлепшых савецкіх людзей», належыць да беспартыйных. Гэтая акалічнасьць, у сувязі з „дэмакратызацыяй“ савецкага ладу, выразна паказвае, на каго маюць ;абапёрціся кіраўнікі дзяржаўнага карабля СССР.

**Брусэль. Сястра памёршага караля Альбэрта I паступіла ў манастыр.** Сястра памёршага бэльгійскага караля Альбэрта I, княгіня Жозэфіна-Кароля-Мар'я-Альбэртына, удава памёршага ў 1919 годзе князя Кароля Гогэнцолерна паступае ў манастыр у Швайцарыі. Урачыстасьць аблачэньня адбылася ў нядзелю 20 студня с. г. у манастыры ў Гунтэрсталь пад Фрэйбургам-Швайцарскім.



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Твая рука большая за маю!

Аб Папе Піусе IX, які памёр у 1878 годзе, хадзіла па Рыме шмат прыгожых расказаў, што сьведчаць аб яго праўдзіва айцоўскай дабраце.

Ведама, што да Папы трудна дайсьці, бо мае ён вельмі мала вольнага часу і слугі добра пільнуюць яго. Аднакжа аднаму вясковаму хлопчыку ўдалося дайсьці да самога Папы. Гэта быў 10-гадовы сынок аднаго з работнікаў, жыўшых на страс- сабору сьв. Пётры.

— „На страсе?“ — спытаецеся, —„а хто-ж гэта жыве на страсе“?

Але, на страсе сабору сьв. Пётры ў Рыме. Страха гэтага найбольшага на зямлі сабору — плоская, а паверхня яе мае больш як 20 тысяч квадратных мэтраў або каля 2-ёх дзесяцін. На краёх страхі стаяць статуі сьвятых, вежы ды іншыя ўпрыгожаньні, а над страхою стаіць вялізарны купал. Усё гэта вымагае бесьперарыўнага, пільнага дагляду і незабаўнае папраўкі, калі што папсуе вецер, дождж і г. д.

Страха гэтая знаходзіцца на вышыні больш як 40 мэтраў над зямлёю. Зразумела, што немагчыма, каб работнікі з сваім прыладзьдзем штодня або колькі разоў на дзень узыходзілі на вышыню 40 мэтраў, дык і жывуць з сваімі сем‘ямі на страсе.

Да сабору сьв. Пётры прылягае Ватыкан — палац Папы з вялізнай бібліятэкай, зборамі статуяў, рэзьбаў, абразоў, награмаджаных за шмат вякоў.

З страхі сабору ёсьць ход да Ватыкану. Тудою зыйшоў хлопчык. Слугі не зьвярталі на яго ўвагі, а мо’ яшчэ і паказалі яму дарогу да таго месца, дзе працуе Папа.

На твары папы Піуса IX маляваўся заўсёды гэткі выраз ласкавасьці, што калі хто яго раз бачыў, дык ніколі яго не забываў. Дык і хлопчык, не баючыся, пайшоў да сьвятога Айца, Які дабрадушна махнуў рукою, каб падыйшоў да Яго бліжэй, што хлопчык, не задумваючыся, і споўніў.

— Скуль ты, дзіцятка? — ласкава спытаўся Папа.

— З страхі сьв. Пётры, — адказаў хлопчык.

— А як цябе завуць, даражэнькі?

— Піо, сьвяты Ойча.

— Дык мы цёзкі... а па што ты прыйшоў?

— Ах, сьвяты Ойча, мая мама вельмі хворая, дык я прашу Цябе памаліцца за яе, і будзе здаровая.

— Як Бог захоча, але я памалюся.

Хлопчык пляснуў з радасьці далонямі і сказаў:

— О, дык мама напэўна будзе здаровая! Пацалаваў некалькі разоў руку, паданую яму Папай, і зьбіраўся выйсьці. Але Папа затрымаў яго, адчыніў шуфляду стала, пры якім сядзеў.

— А, гэта ліры! — сказаў хлопчык.

Папа адазваўся:

— Вазьмі сабе цэлую жменю і занясі маме.

— Ах, сьвяты Ойча, вазьмі ты за мяне, бо твая рука большая за маю!

Ці Папа зрабіў гэта, малы Піо не хацеў мне сказаць, дадам толькі, што ліра — 46 грошай.

**І. М.**

*Przesyłka opłacona ryczałtem*

# Календар

на м—ц Сакавік 1935 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ч | Аўдоцьці | 14 | Č | Matyldy. Lawona |
| 2 | П | Хвядота яп. Кірын. | 15 | P | *Suchi dzień.* Klemansa |
| 3 | С | Эўтропія | 16 | S | *Suchi dzień.* Cyryjaka |
| 4 | Н | **Нядз. 1 Вял. Посту.** Гар. | 17 | N | *Suchaja.* Patrycyja. |
| 5 | П | Конона | 18 | P | Kiryły Jeruzalimskaha |
| 6 | А | 42 муч. Амор. Чан. А.Б.М. | 19 | A | *Jazepa Ahlub. Dz. Maryi* |
| 7 | С | Свмч. Херсон. Васіля і ін. | 20 | S | Aŭchimy. Chwiadośsi |
| 8 | Ч | Феафілакта | 21 | Č | Benedykta. Filameny |
| 9 | П | 40 мч. Сэвастыйск. | 22 | P | Kaciaryny i Wasila |
| 10 | С | Кадрата Бацьк. суб. | 23 | S | Feliksa. Alfonsa |
| 11 | Н | **Н. 2 Вял. Посту. Сапр.** | 24 | N | *Hłuchaja.* Haŭryły. Arch. |
| 12 | П | Феафана | 25 | P | *Dabrawiešč. N. D. Maryi* |
| 13 | А | Нікіфара патр. Царг. | 26 | A | Manuela i Tekli |
| 14 | С | Бэнэдыкта | 27 | S | Jana Damascen. Rober. |
| 15 | Ч | Мч. Агапа | 28 | Č | Jana Kapiotrana |
| 16 | П | Свмч. Аляксандра П. Р. | 29 | P | Aŭstachija |
| 17 | С | Аляксея чал. Божага | 30 | S | Jana Klimaka i Kwiryna |
| 18 | Н | **Н. 3 В. П. Крыжапакл.** | 31 | N | **Sierdaposnaja.** Balbiny |
| | | | | | KRASAWIK |
| 19 | П | Хрысанфа і Дар'і | 1 | P | Hugona i Tadory |
| 20 | А | Іоана муч. | 2 | A | Franciška z Paŭlo |
| 21 | С | Якава Спаведн. | 3 | S | Ryšarda |
| 22 | Ч | Васіля Анкірск. | 4 | Č | Izydara |
| 23 | П | Нікана | 5 | P | Wincentaha i Ireny |
| 24 | С | Захара. | 6 | S | Celestyna i Wilhelma |
| 25 | Н | **Н. 4 В. П. Дабр. Пр. Д. М.** | 7 | N | **Čornaja.** Epifana |
| 26 | П | Саб. Арх. Гаўрылы | 8 | P | Dzianisa |
| 27 | А | Матроны Салун. | 9 | A | Maryi Kleafasawaj |
| 28 | С | Іларыёна і Сьцяпана | 10 | S | Maryi Ehipeckaj |
| 29 | Ч | Марка і Кірылы | 11 | Č | Lawona Wialik. pap. |
| 30 | П | Іоана Лесьцьвічн. | 12 | P | Julija. Wiktara |
| 31 | С | С. Іпата. Язэпа. | 13 | S | Hermanihilda. Maksima |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.